№ 74 Ausgabe B.

# ГОМАН

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Цана з перасылкай і дастаукай да хаты:
на 1 год—10 м. 80 фэн., на ½ году—5 м. 40 ф., на 3 месяцы—2 м. 70 ф., на 1 мес.—90 фэн.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цана абвестак:
на 4-ай старане за радок дробнымі літарамі—25 фэніг.; дробныя абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам

**№ 74 (270).** Год III. Вільня, **20** верасьня 1918 г. Цана **10** фэн. (**5** кап.)

## 19 верасьня.

**Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага і генэрал-ан-шэфа ф. Бэн'а*: На паўночна-ўсход ад Бікс Шот мы ў бітве 9 верасьня ачысьцілі ад непрыяцеля адрэзкі акопаў і ўзялі 136 бэльгійцаў у палон. Ажыўленыя разьведкі між Іпр і Лябассэ. Мясцовыя наступленьні французаў адкінены. Між Мэвр і Гаврэнкур сільная артылерыйская бітва.

Англічане пачалі свае атакі між лесам Аврэнькур і Соммай. На поўнач ад Гузокур адкінены штурмы перад нашымі лініямі. Між Гузокур і Гаржыкур сільныя англіцкія штурмы, узмацаваныя панцырнымі аўтомобілямі адкінены. Эпегі і Ронсуа пасьля зьменных бітваў асталіся ў іх руках. Увечары непрыяцель паўтарыў свае штурмы на ўсім фронце. Яны ўсюды адбіты. Між Гаржыкур і Понтры аўстралійцы ўварваліся ў нашыя пазыцыі. Пасьля заўзятых бітваў непрыяцель задзержаны на лініі на заход ад Белікур—Бэленгліз. Між Оміньён і Сомм французы і англічане атакавалі вялікімі сіламі. Бітвы, што цягнуліся да вечара скончыліся поўнай няўдачай ворага. На фронце 35 кіл. мы ўзялі палонных 15 непрыяцельскіх дывізый.

*Фронт нямецкага Насьледніка*: Між Айет і Энь артылерыйская бітва вялікай сілы. Атакі наабапал дарогі Лёфо-Шавіньён; мы ўзялі палонных.

*Фронт Гальвіца*: Разьведкі і дробныя наступленьні нам далі палонных.

———

ПАРЫЖ (Гавас). 17.IX. У сэнаце Клемансо меў прамову, у каторай, між іншым, сказаў: „ужо паў веку, як мы што дзень прымушаны переносіць абразы і ўніжэньні. Не праходзіла ніводнага дня, каб ня чуліся проціў нас пастрашаньні вайной. У прамовах адкрыта зьверненых проці нас успаміналіся: броніраваны кулак, порах; каторы трэба дзяржаць у сухім месцы і наточаны меч. Нарэшце той, хто думаў прадстаўляў сябе панам сьвету, хоча міра. Пасьля 4-х гадоў страшэннай вайны прышоў намі, праўда, не неспадзеваны зварот у ваенным шчасьці і адступленьне нямецкіх арміяў. На старане саюзьнікаў ўсе спаўняюць сваю павіннасьць і споўняць яе да канца. Чаго мы хочам?—Заўсёды пабедна ваяваць, каб дапяць сваіх мэт. Між законным правам і праступкам ня можа быць паразуменьня. Нам кажуць: гэтую вайну немагчыма скончыць аружжам, яе трэба скончыць перагаворамі. Гэтак кажуць цяпер, але яшчэ нядаўна, перад зваротам ваеннага шчасьця, нямецкія начальнікі гаварылі зусім начай. Устань французскі народ, зьбяры свае стараньні, каб асвабадзіць і апошнія паднявольныя народы». (Радасныя пахвалы).

БЭРЛІН. 18.IX. Англіцкія атакі, што далей ідуць на Комбрэ ад Мэвр да Эпегі, аб'яьсняюцца тым, што мы ўсё яшчэ стаём у старых англіцкіх пазіцыях. Калі ім ня ўдасца да зімы выкінуць нас стуль і заняць іх, дык ім прыдзецца правесьці зіму ў спустошанай зямлі, у каторай павінны быць з вялікім трудам закладзены новыя лініі.

БЭРЛІН. 18.IX. Французскія ашчаднасьці пакладзеныя ў расейскіх цэнных паперах, з прычыны апошніх нямецка-расейскіх перагавораў, здаецца, аканчальна будуць утрачаны. Ад пачатку вайны французскі скарб сам плаціў сваім падданым працэнты па расейскім цэнным паперам. Водле статыстычных данных, Расея вінавата французскім падданым і французкаму скарбу каля 30 мільярдаў, франкаў, гэта складае каля 10 часьці ўсяго французкага нацыянальнага багацьця, або дзьве трацяны ($^2/_3$) ўсіх французскіх капіталаў, што ёсьць заграніцай. Трэцяя часьць расейскіх цэнных папер ёсьць у бедных людзей. Толькі хуткае супакоеньне Расеі можа ўратаваць хоць частку французскіх капіталаў, закладзеных у Расеі.

БЭРЛІН (В.Т.Б). 18.IX. З Кіева наказываюць, што сабраньне бышых членаў Гасударственай Думы і Гасударственае Рады пад прэзэствам графа Бобрынскага, займалася пытаньнем, што можна зрабіць проціў тэррора ў Расеі. Сабраньне пастанавіла зьвярнуцца з заявай протэсту да ўсіх народаў Эўропы.

Цэнтральны камітэт украінскіх коопэратываў зьвярнуўся да нямецкага пасла з протэстам проці ганебных спраў зробленых быццам савецкім урадам.

ПЕЦЯРБУРГ. 16.IX. „Правда" друкуе расказы работнікаў уцёкшых з занятых саюзьнікамі часьцей паўночнай Расеі. Па гэтым расказам уночы з 15 на 16 верасьня арыштавана вярхоўнае ўпраўленьне.

ПЕЦЯРБУРГ (В.Т.Б.). 17.IX. Расейскія афіцэры генэральнага штабу, каторыя адмаўляюцца займаць месцы ў большэвіцкім генэральным штабе, будуць, як наказавае „Северная комуна", выкасаваны з спіску афіцэраў генэральнага штабу.

ВЕНА (В.Т.Б.). 18.IX. **Урадова.** Італьянскі тэатр. Італьянцы далей вялі свае атакі ў ваколіцах Монтэ Пэртіка. Пяць разоў паўтораныя штурмы проціў хрыбта Тассон адбіты ў заўзятай бітве на штыхі. На ўсход ад Ас'яго цяжкія артылерыйскія бітвы.

АЛЬБАНІЯ. Мясцовая атака італьянцаў уздоўж марскога берагу адкінена.

——:——

# Беларускія Вучыцельскія курсы у Сьвіслачы.

Ад 15 кастрычніка 1918 г. да 15 жніўня 1919 г. ў Беларускай Сэмінарыі ў Сьвіслачы будзе адбывацца новы элемэнтарны курс для беларускіх вучыцялёў і вучыцеляк.

Адпаведныя кандыдаты і кандыдаткі ад 18 да 30 гадоў могуць заяўляцца ў сваіх крэйсамтах; мясцовыя—проста ў кіраўніка курсамі інспэктара Бэндзехі, у Сьвіслачы. Там-жа яны даведаюцца аб варунках прыёму.

*Вільня, 20 верасьня 1918.*

Хмары навісьлі над нашай Бацькаўшчынай. Ствараецца такое палітычнае палажэньне, каторае можа быць для нас беларусаў, вельмі небаспэчным. З аднаго боку прагавіта працягавае свае рукі па нашую зямлю Польшча, з другога Расея. І тая і другая нашыя спрадвечныя непрыяцелі. На часьць Беларусі так сама галіцца і Украіна. Тыя-ж, каторых мы не патрабавалі баяцца і, наадварот, маглі ад іх спадзявацца падмогі, дзеля свае карысьці ахвяроўваюць часьці Беларусі яе непрыяцелям, каб самім штось ад іх мець.

Адарваная часьць ад цэлай Беларусі толькі злучаная з Літвой можа спадзявацца і навет быць пэўнай прыроднага свайго разьвіцьця і захаваньня свайго нацыанальнага і эканаміцкага багацьця. Калі-ж бы Беларусь падзялілі між Польшчай, Маскоўшчынай і Украінай, дык трэ было-б нялюдзкай барацьбы, каб абараніцца. Нас паняволілі-б, зганодалі-б нашую беларускую душу, паганьбілі-б нашыя добрыя звычаі, адабралі-б ад нас нашае нацыанальнае і эканаміцкае багацьце, адабралі-б, урэшце, нашую зямлю і зрабілі-б нас сваймі парабкамі і прыдаткам да сябе, з каторым заўсёды можна рабіць усё, што будзе карысным для цэнтру. Калі хто, апалячаны або абмаскалены, не баіцца нацыянальнага ўціску, каму падабаецца нацыанальнае найміцтва, каго ня страшыць быць гноем, на каторым узрасьце маскоўская ці польская краска, той няхай помніць, што гэтак разарваная Беларусь і эканаміцка занепадзе. Апрача невялічкай жмені здэнацыяналізаваных паноў, увесь народ цягнуў-бы гаротнае жыцьцё галечы. Ведама, і пры такім нешчасьлівым палажэньні беларусы не апусьцяць рук, але, пакуль можна, трэба бараніцца. Дык вось мы павінны напяць цяпер усе свае сілы, каб ня даць разарваць Беларусь і дабіцца яе незалежнасьці. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, выбраная Усебеларускім Конгрэсам абвесьціла незалежнасьць Беларусі і ўсе беларусы яе паддзяржалі. Цяпер-жа на спробу нас разарваць мы павінны адказаць галосным протэстам і адзначэньнем нашага жаданьня быць незалежнымі. Як-бы блага палітычныя варункі для нас не злажыліся, трэба ведаць адно, што мы даб'ёмся свайго, калі створым у сябе такую сілу, з каторай у сьвеце прымушаны будуць лічыцца. А мы паказалі, што такую сілу стварыць можам. Дык няхай усе беларускія арганізацыі, усе беларусы вядуць як можна энэргічнейшую працу за незалежнасьць свае Бацькаўшчыны. Палітычнае палажэньне можа яшчэ стаць лепшым для нас, але і пры благім палітычным палажэньні мы можам дабіцца свайго. Дыплёмацыя сама сабой, а творская праца сама сабой, і кожны беларус павінен зрабіць цяпер усё для цэласьці і незалежнасьці свае Бацькаўшчыны.

═══

## Ратуйце уцекачоў!

Да найпільнейшай справы нашага часу належыць паварот беларускіх уцекачоў. Выгнатыя расейцамі перад наступаньнем немцаў больш мільёна беларусаў, ужо з гакам тры гады як гаротнічаюць на чужыне. Жыцьцё ўцекачоў наагул цяжкое, беларускіх-жа ўцекачоў з прычыны аж да апошняга часу неарганізованасьці і несьвядомасьці нашае інтэлігэнцыі яшчэ горшае. Але трохгадовыя мукі ўцекачоў завяршыліся сёлета Галгофай, як у Расеі настала бязладзьдзе і голад. І вось цяпер беларускія ўцекачы ў Маскоўшчыне змучаныя трохгадовай горкай доляй на чужыне і тугой па Бацькаўшчыне, пагалелыя, і навет часта разьбітыя фізычна немагчымымі варункамі жыцьця ў Расеі, рвуцца і часта ня могуць прарвацца дамоў. Дзесяткі тысяч беларусаў дабіваюцца выезду з Пецярбурга, Масквы, Самары, Кіева, Адэсы і іншых мест Расеі і Украіны. Масы беларусаў чакаюць пазваленьня або чароду на праезд на ст. Торошыно ля Пскова, у Оршы і іншых мясцох пераезду ў Беларусь; масы таксама чакаюць ля загарадак з дроту. Шмат трацяць апошні грош, здабыты крывавым потам, каб перайсьці граніцу рознымі нязвычайнымі спосабамі. Ін-

